## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# Я — САРД, СІНЬЁРЫ!

На вузкім закавулку горнага сяла ідзе святочны натоўп. Паперадзе два смуглявыя маладыя хлопцы. Яны іграюць на двухствольных флейтах з чароту. За імі дзяўчаты і хлопцы з вазамі, блюдамі, флягамі, талеркамі ў руках. Ззаду тупае асёл, нагружаны нейкімі скрынямі. Такімі скрынямі, дошчачкамі загружаны павозкі, якія цягнуць валы. Рогі валоў абкручаны шаўковымі істужкамі, а шыі — вянкамі кветак. На канцы гэтай цікавай працэсіі энергічна ступае сівавалосы стары ў галаўным уборы, званым у гэтых мясцінах «берытта».

— Што гэта? — пытаем старога.

— Нічога асаблівага, — адказвае ён. — Мая ўнучка Джавана выканала традыцыйны абрад — «перанос пасагу». Пераносяць усё: тканіну, дываны, пасуду, нават мэблю, якую мясцовыя людзі вельмі цэняць, бо ў іх хатах мала яе. А каб здавалася, што нявесце даюць вельмі багаты пасаг, на зайздрасць суседзям, разбіраюць на дошчачкі ложак і камод і ўсё нясуць асобна. Некалькі асоб нясе масіўны сундук, аздоблены прыгожаю разьбою — у ім маладая жонка будзе перахоўваць найбольш каштоўныя рэчы.

У руках маткі маладога — аліўная лямпа, якую тут лічаць знакам сямейнага шчасця. Усім забаронена аглядацца назад: там застаўся былы дом нявесты, а з былым цяпер канец! Яна пачынае новае жыццё.

— Гэты звычай такі даўні, як сама Сардынія, — задуменна кажа стары...

У Еўропе мала ведаюць пра востраў Сардынію, што на Міжземным моры. Даўным - даўно жылі на ім плямёны, пабудаваўшыя тут загадкавыя «нурагі» — велізарныя будовы да 20—25 метраў вышынёю, з вялікіх каменных валуноў. Выглядаюць накшталт вежаў у форме зрэзанага конуса. Унутры кожнай вежы ёсць некалькі цёмных памяшканняў, туды папасці можна толькі цераз вузкія шчыліны ўваходаў. Што гэта такое нурагі: ці жылі ў іх людзі, ці толькі маліліся ў іх да сваіх багоў? А, можа, гэта нейкія крэпасці? Вучоныя пакуль што не могуць нічога высветліць.

У 1861 годзе Сардынія ўвайшла ў склад аб'яднанага Італьянскага каралеўства. Цяпер яна лічыцца аўтаномнаю вобласцю Італьянскай Рэспублікі. Сардынцы рэдка пакідаюць свой востраў. Сучасны свет з яго рухам і шумам знаходзіцца побач, за гадзіну можна быць у Рыме або Неапалі. Але чаго і пашто? За пакупкамі? Даволі асядлаць асла і паехаць на рынак да найбліжэйшага мястэчка. А мо' прыдалося б падшукаць сабе работу, заробак у Рыме? Дарэмна, у Італіі і без таго больш двух мільёнаў беспрацоўных і галодных. Прытым, як сардынец разгаворыцца ў вялікім італьянскім горадзе?! Яго мова настолькі адрозніваецца ад італьянскай, што сардынскія дзеці на першых уроках у школе зусім не разумеюць, што гаворыць да іх італьянская настаўніца. Запытаць чалавека: «Хто ты — італьянец?», ён здзіўлена рушыць плячыма і адкажа: «Но, сіньёр, соно сардо (Не, сіньёр, я сардынец)».

У сем'ях сардынцаў многа дзяцей. На востраве лічыцца, што дастойнымі пашаны могуць быць толькі тыя бацькі, якія маюць, як гаворыцца, штогод па дзіцяці, у найгоршым выпадку — што два гады, але не радзей. Родзяць у хаце, збіраюцца суседзі, а муж павінен стаяць каля дзвярэй, вывесіўшы над імі свае штаны з дамаштканага палатна. Кожны, хто ўваходзіць, б'е па штанах палкаю і дае волю языку на порцыю салёных жартаў у адрас гаспадара штаноў і... сям'і. Затым прыходзяць госці з падарункамі.

Сардынянкі вельмі рэлігійныя, і звычайна ўжо на восьмы дзень пасля родаў жанчына выходзіць з хаты і ідзе ў касцёл, каб «ачысціць» сябе, бо лічыцца, што ад моманту родаў над ёю мае асаблівую ўладу д'ябал...

Сардынцы, што жывуць у гарах, будуюць хаткі з камення або самаробнай цэглы. У сярэдзіне пакоя размешчана вогнішча, на якім пастухі гатовяць авечы сыр. Таму такія хаты завуць «сыраварнямі». Галава сям'і летам начуе на двары, а зімою на падлозе каля вогнішча. Зрэшты, галаве сям'і не часта здараецца спаць у хаце: пастухі месяцамі качуюць са стадамі. Сардынскую сялянку рэдка напаткаеш за працаю ў полі або на пасьбішчы. Яе спрадвечны абавязак — заўсёды быць ля вогнішча, у хаце. Тут яна выхоўвае дзяцей, тут яна іх родзіць, тут яна і паміpае. Усё яе жыццё — ля вогнішча, на халоднай каменнай падлозе. (а-ся)

## КАМУ ЯКАЯ ПРЫЧОСКА?

ДРЭННА ◆ ДОБРА ◆ ДРЭННА ◆ ДОБРА




Высунутая барада будзе лепш выглядаць пры пушыстых валасах на патыліцы, з высокім зачосам над ілбом.




Вузкі твар патрабуе шырокай пышнай прычоскі.




Калі курносы нос, дык прычоска на ілбе, шчоках і патыліцы не павінна паўтараць яго лініі.




Калі твар «сэрцам», добра мець доўгія валасы, начэсаныя на лоб.




Малы падбародак і зрэзаны лоб ліквідуюць валасы, начэсаныя на шчокі і лоб.




І доўгі нос выдаецца меншым, калі прычоска пышная над ілбом і на патыліцы.




Вуглаватаму твару з моцным падбародкам не пасуе прычоска, расшыраная ўнізе.




Высокі лоб патрабуе прычоскі з грыўкай і пушыстай на патыліцы.

## Ствараецца „лятаючы сподак"

Некалькі год назад мы пачулі сенсацыйнае паведамленне: нашу планету наведваюць «прышэльцы з космасу». Яны прылятаюць на касмічных караблях, якія нагадваюць па форме талерку або сподак. Некалькі чалавек убачылі, як яны лятаюць і нават прызямляюцца...

Неўзабаве гэта фальсіфікацыя была выкрыта вучонымі. Аб «лятаючых сподках» пачалі забываць... Аднак група канадскіх інжынераў з фірмы «Ауро», цікавілася «сподкамі» не толькі з цікавасці. Гэта гісторыя штурхнула іх на думку сканструяваць лятальны апарат, які меў бы форму дыска.

Магутны вентылятар вертыкальна падымае «сподак» у паветра. Затым рэактыўная струя адхіляецца назад, і апарат пераходзіць у гарызантальны палёт.

Канадскія вучоныя лічаць, што «сподкавая» форма апарата з'яўляецца ідэальнай для палёту на малых вышынях і з вельмі вялікімі хуткасцямі.

## Ці ведаеце вы, што...

У Польшчы здабываюць прафесію 61 алжырац. Прафесію механіка грамадзянскага паветранага флоту атрымае 16 алжырцаў, тэкстыльшчыка — 10, металурга — 19, млынара — 4; 12 наймалодшых з іх напраўлены на курс польскай мовы ў Лодзі. Ад новага навучальнага года яны будуць вучыцца на тэхнікаў энергетыкі. На прафесіянальнай практыцы будуць яны год, а вучоба ў тэхнікуме, з уступнай вучобай польскай мовы будзе працягвацца 6 год.

* * *

Паводле статыстыкі ЮНЭСКО на свеце 700 мільёнаў непісьменных. Гэта больш як адна пятая насельніцтва зямнога шара. Большасць непісьменных пражывае ў краінах адсталых гаспадарча (мх)

# „САТУРН"

Васіль Ардамацкі

Становішча нямецкіх войск на Цэнтральным фронце рабілася ўсё больш напружаным. У першы летні месяц савецкія войскі зрэзалі непрыемныя для сябе выступы фронту. Усім было ясна, што гэта яшчэ не галоўнае наступленне, але ўжо яўная да яго падрыхтоўка. У апошні час сюды ішлі загады Гітлера аб перакідцы дывізій на іншыя фронты. Абмяркоўваць загады Гітлера ніхто не меў адвагі. Генералы, паціскаючы плячыма, гаварылі сваім падначаленым, быццам у фюрэра ёсць дакладныя даныя, што наступлення рускіх на Цэнтральным фронце ў найбліжэйшы час не будзе, і ён вырашыў застрахавацца сябе на захадзе. Затым прыйшоў загад Гітлера аб неабходнасці падрыхтавацца да зняцця з фронту цэлай арміі. Вось толькі калі спрацавала даўно пачатая дэзінфармацыйная гульня, якую пры дапамозе захопленых агентурных пунктаў абвера вяла савецкая контрразведка. У хітра расстаўленыя сеткі гэтай гульні трапіў Канарыс, а за ім і генеральны штаб гітлераўскай Германіі. Яны паверылі, што руская армія рыхтуе прарыў там, дзе яго найменш можна было спадзявацца.

У гэты час Шчукін пачаў небяспечна спяшацца. Працуючы ў групе «Два ікс», ён аб становішчы спраў на Цэнтральным фронце ведаў вельмі мала, але адчуваў навокал сябе атмасферу вялікай трывогі. Шчукін нерваваўся: яму хацелася як найхутчэй і найлепш даказаць Рудзіну шчырасць свайго абяцання, заслужыць прабачэння Радзімы, а праца ў групе «Два ікс»

109

была арганізавана так, што Шчукін нічога, апрача таго, што ён зрабіў сам, фактычна не ведаў. І ён не мог зразумець галоўнага: навошта група «Два ікс» засылае ў Маскву агентаў з дакументамі, разлічанымі на жыццё ў Савецкім Саюзе нават у пасляваенны час.

У сярэдзіне дня Шчукіна выклікалі да Мюлера.

— Мне патрабуецца ваша дапамога, — сказаў той. — Зараз сюды даставяць адну дзяўчыну, дакладней — былую дзяўчыну. Яна была санітаркай у партызанскім атрадзе, трапіла ў палон, а ў лагеры жыла з афіцэрам СС. Праўда, гавораць, у іх была любоў. Афіцэра, яе каханка, адтуль забралі, яна засталася адна, і цяпер мы хочам зрабіць яе нашым агентам і закінуць у савецкі тыл. Затым, магчыма, нават, калі закончыцца вайна, яна павінна перабрацца ў Маскву, па адрасу, які мы ёй дамо. Там яе будуць чакаць, уладзяць на працу, і больш ад яе нічога не трэба, апрача аднаго, — чакаць, пакуль да яе не прыдзе чалавек, які фармальна стане яе мужам. Яе ўжо апрацоўвалі ў Мінску, але яна не згаджаецца. А ўсё ў ёй ідэальна: любоўная сувязь з эсэсаўскім афіцэрам дае нам у рукі дасканалую пагрозу на выпадак яе здрады, падыходзіць таксама ўзрост. І раптам гэта ўпартасць. Пагутарце вы з ёй. Мо' з рускім яна будзе больш падатліва. Вашу гутарку мы запішам на плёнку, і потым мы яе прааналізуем.

У дзверы пастукалі. Мюлер быстра адыйшоў у глыбіню кабінета, сеў там і закрыўся журналам.

Канвойны ўвёў у кабінет худую дзяўчыну. Вочы яе выказвалі дзікі жах.

— Сядайце, Алейнікава, сядайце, — ветліва сказаў Шчукін і паказаў ёй на крэсла.

Яна села.

Шчукін пачакаў крыху і спытаў тонам добрага настаўніка.

— Ці добра вы зразумелі, што вам прапануюць?

— Так, але я гэтага не зраблю, — адказала Алейнікава.

— Усё ж я вам скажу аб гэтым яшчэ раз.

110

Шчукін пераказаў ёй тое, што сам пяць мінут назад пачуў ад Мюлера.

— Я гэтага не зраблю, — паўтарыла Алейнікава. Да іх падыйшоў Мюлер. На твары ў яго была салодкая ўсмешка. Перакручваючы рускія словы, ён сказаў:

— Вы тоже не будет соглашаться, если мы сказал, что человек, который будет прийти к вам в Москве, есть ваш большой любовный друг Гельмут?

Алейнікаву быццам пугай ударылі.

— Так, так, — усміхнуўся Мюлер. — Менавіта так. Прыдзе да вас Гельмут. Дык што можна яму паведаміць? Хочаце вы з ім сустрэцца ў Маскве? Так? Не?

— Я не зраблю гэтага, — ціха сказала Алейнікава.

— Так і паведаміць Гельмут? — ужо строга спытаў Мюлер.

— Паведамляйце.

— Падумай яшчэ.

— Няма чаго мне думаць.

Унутры Мюлера быццам нейкая пружына лопнула. Ён схапіў са стала цяжкую вязку ключоў і пачаў біць ёю Алейнікаву па твары.

Рудзін на працягу ўсяго гэтага дня дарэмна намагаўся сустрэць Шчукіна. Яшчэ ўчора ён праз Бабакіна атрымаў ад Маркава запіску: «Злоўлены яшчэ адзін адпраўлены «Сатурнам» агент, які мяркуючы па дакументах, павінен быў закансервавацца на вельмі доўгі час, аж да пасляваеннага. Паказанняў па гэтаму поваду арыштаваны не даў. Старкоў катэгарычна загадвае тэрмінова высветліць у чым тут справа?

Рудзін ведаў толькі адно — што і гэты агент пасланы групай «Два ікс». Няўжо Шчукін па-ранейшаму нічога не можа даведацца і таму апошнія дні пазбягае сустрэчы з ім?

У вестыбюлі «Сатурна» ля дошкі аб'яў стаяў Шчукін. Рудзін паглядзеў на яго амаль нянавісна: вось дзеяч, хоча і нявіннасць захаваць і капітал набыць. Калі Рудзін падыйшоў да яго, Шчукін ціха сказаў:

— Трэба пагаварыць.

Рудзін прайшоў міма яго і пачаў узнімацца па лес-

111

